# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы

5

# BYELORUSSIAN YOUTH

Published by Byelorussian Youth Association of America

1960

## ЗЬМЕСТ



### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**ЗША**

**Mr. M. Karanieuski, 14 Easton Ave., New Brunswick, New Jersey**
**Mr. U. Duniec, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio**
Mr. A. Karol, 30 Easton Ave., New Brunswick, N. J.
**Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois**
Mr. I. Laszkiewicz, Summer St., N. E, Minneapolis 13, Minn.
Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave, Detroit 3, Mich.
Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N. J.

**Канада**

**Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario**
Mr. K. Karanieuski, 143 Cathleen St., W, Sudbury, Ont., Canada.
Mr. B. Lisconak, 472 Bayron Court, Oshawa, Ontario.
Mr. M. Silvanovic, 128 Wallnut St., Winnipeg 10, Manitoba, Canada.

**Ангельшчына**

**Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6**

**Бэльгія**

**Mr. U. Bakunovic, 19 Place Hoover, Louvain**

**Аўстралія**

Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria.
Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, New South Wales.

**Францыя**

Mr. V. Mickievic, 49 Bd de Bezons, Sartrouville (S. et O.) France.

Адрыс рэдакцыі: „Беларуская Моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя пераказы выстаўляць на: "BYELORUSSIAN YOUTH"

Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**
**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**
**Рэдагуе: Калегія**

Год выд. II — СТУДЗЕНЬ-САКАВІК 1960 г. — № 5

## *Як адзначыць сьвята 25-га сакавіка?*

25-га сакавіка Беларусы, раськіданыя па ўсім вольным сьвеце, адзначаюць 42-ія ўгодкі абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі (25 сакавіка 1918 г. у Менску).

Цікава параўнаць гэтае наша нацыянальнае сьвята да нацыянальнага сьвята Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, 4-га ліпеня. У гэты дзень амэрыканскі народ адзначае 1776 г., калі 13 ангельскіх калёніяў на ўсходнім узьбярэжжы Паўночнае Амэрыкі здабылі палітычную свабоду й незалежнасьць. Гэтую свабоду Амэрыка мае й сяньня — бадай 190 год патым. За гэтыя 190 год амэрыканскі народ ні разу ня быў пазбаўлены свабоды й ня мусіў яе нанова адваёўваць. Да свабоды ў Амэрыцы людзі так ужо звыклі, што часта сабе навет ня могуць правільна *ўявіць*, як жывуць паняволеныя народы, як прыкладам беларускі. Сьвята 4-га ліпеня адзначае змаганьне амэрыканскага народу за незалежнасьць і здабыцьцё яе — важны, але даўно закончаны працэс. Цяпер гэтыя падзеі ўжо належаць гісторыі.

Падобны працэс змаганьня за незалежнасьць Беларусі нам — беларускай моладзі 1960 г. — вельмі блізкі й зразумелы, бо ён усё яшчэ трывае. 42 гады таму нашыя бацькі завяршылі даўгое й цяжкое змаганьне, каб адрадзіць свой народ, каб выйсьці з тае цемры чужое няволі, у якой апынуліся Беларусы, згубіўшы незалежнасьць у 1795 г. У вадрознасьць ад Амэрыканцаў — Беларусам свабоды не ўдалося ўтрымаць. Гэтая свабода — гэта йзноў нашая галоўная мэта й лятуценьне: яна для нас, Беларусаў, ня згубіла свайго значаньня, *бо мы яе дагэтуль ня маем.*

Угодкі 25-га сакавіка нам прыпамінаюць, што ў гэты дзень беларускі народ выказаў сваё жаданьне быць вольным і адначасна прыпамінаюць, што ў нас свабоды яшчэ няма, і што мы, маладыя Беларусы, мусім яшчэ раз *пацьвердзіць* жаданьне нашага народу ды сваёй працай зьдзеіць усенародную мэту — незалежнасьць Беларусі.

Пацьвердзіць народную волю, выказаную Актам 25-га сакавіка, ды ня толькі словам, але й працай — гэта найлепшы спосаб адзначаньня нашага нацыянальнага сьвята.

Найменшы ўчынак кажнага з нас, які спрычыніцца да ўзмацненьня беларускіх пазыцыяў, і пашырыць нашую веду аб усім беларускім — гэта практычнае й трывалае адзначаньне 25-га сакавіка.

Кажны з нас мае магчымасьць нешта зрабіць; каб пералічыць усе магчымасьці, ня стане ў нас паперы. Для прыкладу падамо некалькі:

— Увайдзі й бяры актыўны ўдзел у беларускіх арганізацыях моладзі й студэнтаў. Гэта можа быць Тваё першае дазнаньне ў супрацы зь іншымі. Пастарайся выкарыстаць гэтую супрацу для ўзмацненьня свайго характару й для агульнага дабра беларускага народу. Памятай, што ў грамадзе сіла!

— Чытай беларускія кнігі й газэты, узбагачай сваю веду аб Беларусі й беларускім народзе, разьвівай веданьне свае роднае мовы.

— Раскажы сваім сябром іншых нацыянальнасьцяў аб сваім народзе й бацькаўшчыне.

— Калі ня ўмееш чытаць пабеларуску, навучыся ў беларускіх школах, або пры дапамозе дадатку „Learn to Read Byelorussian", які знойдзеш у гэтым нумары „Беларускае Моладзі".

— Вазьмі ўдзел у ўрачыстасьцях 25-га сакавіка.

*Дарагія сяброўкі й сябры! Вітаем Вас усіх з сьвятам 25-га сакавіка! Адзнагма яго ўсе так, як належыцца!*

**УВАГА!**

**ГРАШОВАЯ ДАПАМОГА СТУДЭНТАМ**

**Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд пры ЦБАА дае фінансовую дапамогу. З заявамі зварачацца да старшыні аддзелу ССФ на Паўночную Амэрыку д-ра А. Вярбіцкага на адрыс: Dr. E. WIERBICKI, P. O. Box 301, Waterloo, Iowa. Да заявы трэба далучыць пасьветку аб пасьпяховасьці. Стыпэндыі даюцца поўныя або частковыя — у форме пазыкі, што мусіць быць зьверненая па сканчэньні навукі з пачаткам заработнае працы.**







**Старэйшыя малодшым**

# "БЕЛАРУСКАЯ ХАТКА"

Хоць я й назваў артыкул „Беларуская Хатка", аднак я кораценька падам Вам, Моладзь, малюнак дваццатых гадоў у Менску, калі мы, старэйшыя, пачыналі грамадзкую працу.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 году шырака адчыніла дзьверы для місіянерскае працы на тэрыторыі былое Расейскае Імпэрыі. Найбольшую актыўнасьць праяўлялі амэрыканскія місіі квакераў, арміі спасеньня й іншыя. Пачалася місіянерская праца і ў Менску, дзе быў збудаваны спэцыяльны вялікі дом на Камароўцы. Аднак паміж прапаведнікамі й тагачасным беларускім нацыянальным актывам пачаліся войстрыя спрэчкі ў нацыянальным пытаньні: прапаведнікі, настаўленыя пра-расейска й няпрыхільныя да нацыянальнага самавызначэньня, ня надта былі дарыхтаваныя да такіх спрэчак і неўзабаве іхная праца ў Менску пачала развальвацца. Вялікі, новапастаўлены будынак пуставаў. Тады прапаведнікі зьмянілі тактыку: яны запрасілі для выступленьняў у місіянерскім доме славуты ўжо ў той час хор Тэраўскага й абвесьцілі, што будуць даваць дармовыя беларускія канцэрты. Вынік быў надзвычайны — у вялізарнай залі будынку не ставала месца. 25-30 часінаў перад кажным канцэртам прамаўляў із сцэны прапаведнік толькі на эвангельскія тэмы, і ніхто яго не перапыняў .Такой тактыкай прапаведнікі неўзабаве прывабілі людзей у будынак. Аднак, праца місіянераў трывала нядоўга; набліжэньне фронту змусіла іх пакінуць Менск. Місіянерскі дом застаўся пусты й нічый. Тады мясцовы беларускі актыў паставіў узяць будынак для сябе й назваць яго „Беларускай Хаткай". Была нанова ўдэкараваная сцэна: на сцэне была намаляваная прыгожая беларуская вёска. На будынку зьявілася новая шыльда — „Беларуская Хатка". Гэтак і нарадзілася „Беларуская Хатка".

У гэтым-жа часе ў Менску пачынаў дзейнасьць беларускі артысты Флёрыян Ждановіч і часта ставіў на сцэне Беларускае Хаткі беларускія п'есы. Пасьля Ждановіч перайшоў у будынак Гарадзкога Тэатру й гэтым, фактычна запачаткаваў Беларускі Дзяржаўны Тэатр. У хатцы таксама працаваў Францішак Аляхновіч ды часта ладзіў паказы ведадмы артысты драматург Уладыслаў Галубок.

Але праз увесь гэты час Хатка заставалася толькі беларускім нацыянальным будынкам, належачы да Гарадзкое Управы. Палітычнай арганізацыяй Хатку зрабіла беларуская моладзь.

У ліпені 1920 году Чырвоная Армія заняла Менск. Усе тыя, хто быў зьвязаны з Палякамі, або займаўся антыбальшавіцкай дзейнасьцяй, пакінулі Менск і паехалі на Захад. Замерла жыцьцё і ў Хатцы, і яна стаяла пустая з забітымі вокнамі й дзьвярыма.

Беларускае грамадзтва ў той час шмат спадзявалася ад бальшавікоў. Калі ў 1919 годзе ў Смаленску была абвешчаная Беларуская савецкая рэспубліка (аўтар гэтых радкоў тады быў у Смаленску), дык на картах, раздаваных чырвонаармейцам, межы Беларусі ахаплялі тэрыторыю ад Бранску до Ломжы. Але ўжо заняў-

шы Менск, бальшавікі зьмянілі палітыку й абвесьцілі БССР толькі ў складзе 6 паветаў. Тады ўжо адразу ў Менску пачала тварыцца апазыцыя бальшавіком.

Прыехаўшы ў 1920 г. у Менск, я адразу пачаў працаваць сакратаром дзіцячага часапісу „Зорка", (рэдактарамі быў пісьменьнік Зьмітрок Бядуля), адначасна я працаваў і сярод вайскоўцаў. Сярод вайскоўцаў Беларусаў у той час была вялікая цяга на Беларусь. Яшчэ да Рыскага міру бальшавікі абвесьцілі, што яны будуць тварыць тэрытарыяльную армію і ўзбройваць народ. Зараз-жа пасьля Рыскае ўмовы ў Менску было абвешчана, што будзе створаны тэрытарыяльны полк. Спачатку быў арганізаваны штаб палка й быў падабраны камандны склад. Гэтаксама быў пачаты вайсковы вышкал моладзі ад 18 гадоў. Тут паўстала пытаньне аб беларускай вайсковай тэрміналёгіі. Пры Беларускім Народным Камісарыяце Асьветы быў створаны акадэмічны цэнтр, дзе й заснавалася першая тэрміналягічная камісія. Неўзабаве паўсталі іншыя тэрміналягічныя камісіі, якія пазьней былі злучаныя й названыя Інстытутам Беларускай Культуры, і гэта быў першы крок да Беларускай Акадэміі.

Расейцы-ж адразу пачалі паралізаваць нашую працу, як сярод вайсковае моладзі, так і наагул на ўсіх дзялянках грамадзкага жыцьця. Яны сіламоц стараліся ўводзіць расейскую мову й неўзабаве пачалі арганізаваць камсамол. У камсамоле-ж, прыкрываючыся лёзунгам інтэрнацыяналізму, жывасілам насаджвалася тая-ж самая расейшчына. Каб даць адпор расейшчыне, на сходзе менскага грамадзкага актыву было пастаноўлена арганізаваць беларускую моладзь у нацыянальныя гурткі. За кароткі час па усёй Беларусі было створана 26 нацыянальных гурткоў моладзі. Арганізацыю менскай моладзі даручылі аўтару гэтых радкоў. Дзейнасьць менскага гуртка мы й разгледзім.

На арганізацыйным сходзе моладзі Менску было пастаноўлена назваць арганізацыю Гурток Беларускай Моладзі; сядзібай Гуртка мы зрабілі Беларускую Хатку, назваўшы яе „Клюб Беларускай Моладзі — Беларуская Хатка". На сходзе-ж было абранае Праўленьне Хаткі й апрацаваная праграма Клюбу. Адтуль Беларуская Хатка перастала быць будынкам, дзе рабіліся толькі танцы й ставіліся спэктаклі; яна зрабілася сядзібай нацыянальна-палітычнай арганізацыі моладзі. Палітычна-нацыянальная праграма Клюбу была наступная:

1. Пашыраць нацыянальную сьведамасьць сярод моладзі й грамадзтва.

2. Памагаць увядзеньню беларускае мовы як у школах, так і ў усіх грамадзкіх установах.

3. Узгадоўваць сяброў Клюбу ў нацыянальным духу.

Статут Клюбу быў такі: 1) Сябрам Клюбу можа быць кажны хлапец ці дзяўчына, незалежна ад нацыянальнасьці. Прыкладам, да Клюбу належалі тры жыдоўскія хлапцы: Аксэльрод, Мунвіз і Юдовіч. Усе яны былі мянчане з Камароўкі, зжыліся зь беларускай моладзяй і былі запраўднымі беларускімі патрыётамі. Яны бралі актыўны ўдзел ў працы Хаткі: першыя два былі выдатныя арганізатары, а апошні быў мастак. 2) Кажны сябра Клюбу мусіў гаварыць пабеларуску й шанаваць гэтую мову.



3) Сябры Клюбу маглі ўваходзіць у іншыя палітычныя арганізацыі. Праўда, такіх выпадкаў было ня шмат, але яны былі. Прыкладам, цяперашні паэт А. Александровіч пасьля належаў да Камсамолу, адначасна застаючыся актыўным сябрам Клюбу.

У Беларускай Хатцы працавалі наступныя сэкцыі: тэатральная, літаратурная, сэкцыя нацыянальных танцаў (часта яе называлі сэкцыяй скокаў), мастацкая й сэкцыя навучаньня граць на піяніне.

Тэатральную сэкцыю кіравалі артыстыя Фальскі, Цэрах і Ляжневіч. Гэта была найбольш колькасная сэкцыя. Найактыўнейшымі сябрамі гэтае сэкцыі былі Платонаў, цяперашні народны артыст Беларусі й СССР, Ул. Сянько, А. Комар і Рамановіч, сяньняшні ведамы пісьменьнік, хоць ён і тады, бадай, найболей працаваў у літаратурнай сэкцыі. Актыўна таксама ў сэкцыі працавалі Апацёнак, Казакевіч, Вольскі й шмат іншых, прозьвішчы якіх сяньня я ўжо не магу ўспомніць. У тэатральнай сэкцыі было шмат дзяўчат. Найбольш працавалі Вольга Бузаноўская, Чайкоўская, Вольга Шыкар, сёстры Юцкевічы, сёстры Габрыновічы, Магер, Дзятка і інш.

Не такой колькаснай, але ня менш актыўнай была сэкцыя літаратурная. Кіраваў гэтую сэкцыю Якуб Колас. Досыць часта ён чытаў рэфэраты ў Хатцы. Найбольш актыўнымі ў гэтай сэкцыі былі А. Александровіч, Алесь Дудар (Дайлідовіч) і Рамановіч.

Танцавальную сэкцыю кіраваў Родзевіч, і да гэтай сэкцыі належылі ўсе сябры Клюбу, за выняткам аўтара артыкулу.

Кіраўніком мастацкае сэкцыі быў Юдовіч, а прозьвішча кіраўнічкі сэкцыі музыкі я ня памятаю.*).

Летнімі часамі моладзь працавала ў Хатцы штодня, а ўвосень працаваць даводзілася меней — улады не давалі электрычнасьці.

Апрача працы ў сэкцыях, сябры Клюбу бралі актыўны ўдзел у ладжаньні розных грамадзкіх імпрэзаў Менску.

Належала да Клюбу й шмат малодшай моладзі. Усе яны таксама вельмі аддана й з захапленьнем працавалі й памагалі старэйшым. Кажны зь іх завіхаўся й стараўся, каб атрымаць нейкую „паважную" працу. Сярод гэтых хлапцоў у Хатцы працаваў і Антось Адамовіч — сяньня ведамы літературны крытык.

Ясна, для вядзеньня працы Клюбу былі патрэбныя грошы. Гэтыя грошы мы зьбіралі ад спэктакляў. Зборы заўсёды бывалі вялікія й фінансава мы спраўляліся. Для касы Клюбу ладзіў канцэрты й кампазытар Тэраўскі. Наагул, трэба сказаць, што ўсё беларускае старэйшае кіраўнічае грамадзтва нас вельмі падтрымвала й нам памагала. Стала цікавіўся працай Клюбу Янка Купала, хоць заходзіў у Хатку ён радзей за Я. Коласа. Распытваючыся аб працы, Янка Купала заўсёды даваў нам парады й хваліў за працу. Частым гасьцём у Хатцы бываў Цішка Гартны, парады й памога якога нам заўсёды бывалі карыснымі. Рэдка ў Хатку заходзіў Язэп Лёсік, але затое кіраўніцтва Клюбу часта наведвала ягоную кватэру. Яго прадуманыя парады й навукі нам маладым, што ўваходзілі ў грамадзка-палітычнае жыцьцё, былі вельмі патрэбныя й карысныя.

Інакшае становішча заняла да нас

---

*) Скальская. — **Рэд.**

савецкая ўлада. Спачатку яна ставілася абыякава. Аднак, калі камуністыя пабачылі, што мы — дзейная апазыцыя камсамолу, і што іхны камсамол моцна цярпіць на гэтым, гэтая абыякавасьць зьмянілася на варожасьць, што далей прывяло да разгрому Хаткі. Бальшавіцкая ўлада нам не дазволіла выдаваць часапіс і не дазволіла зрабіць агульна - беларускі зьезд беспартыйнае моладзі. У супрацьвагу нам, бальшавікі мабілізавалі камсамол і адкрыта пачалі абвінавачваць нас у нацыяналізьме. Прыкладам, Міхась Чарот (М. Кудзелька), які спачатку да нас паставіўся прыхільна, потым выступіў у прэсе й абвінаваціў Клюб у нацыяналізьме.

Была прызнаная нацыяналістычнай і неадпаведнай сучаснасьці паэма А. Дудара „Усяслаў Полацкі". Зь літаратурнай сэкцыі гэтая паэма была забраная ў „Галаўліт", але ня была надрукаваная й нам ня зьвернутая.

У працах танцавальнай сэкцыі (бо там развучваліся толькі народныя танцы) улады таксама пабачылі нацыяналізм.

У канцы 1922 году на нас налажылі вялікія падаткі й пачалі рабіць розныя правакацыі. На даўгія пэрыяды выключалі электрычнасьць. Калі-ж бальшавікі пабачылі, што мы ўпорыста працуем далей, яны пастанавілі нас выгнаць з Хаткі. Нас паведамілі, што будынак Хаткі патрэбен уладам. Забраўшы ад нас будынак, бальшавікі зрабілі ў ім стайню для кавалерыйскага палка. З Хаткі мы перанесьліся на Унівэрсытэт (тады ўжо бальшыня актыву Клюбу вучылася на Унівэрсытэце). Сваю групоўку на Унівэрсытэце мы назвалі — „Аб'еднаньне Беларускіх Студэнтаў". „Аб'еднаньне" прайснавала яшчэ паўгоду й было афіцыйна забароненае бальшавікамі. Гэтаксама нам забаранілі рабіць усялякія нацыянальныя беларускія сходы.

У гэтым-жа часе быў арыштаваны Фальскі й прысуджаны да расстрэлу, але пасьля расстрэл быў заменены на 10 гадоў катаргі. Крыху пазьней, бадай усе сябры Хаткі былі арыштаваныя й засуджаныя. Бальшыні зь іх надоўга давялося разлучыцца зь Беларусяй, а шмат і не пабачылі яе ўжо зусім. Некаторым сябром Хаткі савецкая ўлада й ставіла толькі ў віну прыналежнасьць да Хаткі. Асабліва пацярпела за Хатку В. Бузаноўская.

Бальшавіком доўга яшчэ не давала супакою дзейнасьць Беларусаў у 1920-30-х гадох. Ужо ў 1935 г., калі я адбыў ссылку й асяліўся ў горадзе Арле, аднойчы мяне паклікалі ў НКВД і сказалі наступнае: „Для нас вы й надалей застаяцёся кіраўнікомом моладзежнае беларускае контррэвалюцыйнае арганізацыі й каб пазбавіцца гэтае плямы вы павінны выступіць у прэсе й асудзіць беларускі нацыяналізм". Гэтага я не зрабіў, і праз кароткі час, у канцы 1935 году, быў зноў арыштаваны. У турме мне паказалі даносы на мяне з дэтальным апісаньнем усяе мае менскае дзейнасьці. На вялікае маё маральнае задавальненьне, сярод даносаў ня было ніводнага , зробленага сябрамі Хаткі.

Беларуская Хатка, як палітычная арганізацыя, прайснавала толькі тры з паловаю гады, аднак у нацыянальным адраджэньні яна адыграла важную ролю. Яна ўзьняла на ўзьверх зь нізоў беларускае беднаты (мяшчанства, пралетарыяту, сялянства) цэлы шэраг выдатных Беларусаў. Тут я ўспомніў толькі аб менскай арганізацыі, а іх, як я зацеміў вышэй, было 26, якія ахаплялі некалькі тысячаў беларускае моладзі. У кажным з гурткоў выраб іліся нацыянальныя дзеячы. Прыкладам, у Слуцку гурток моладзі разгарнуў шырокую палітычную дзейнасьць, эпілёгам якое быў славуты працэс Ю. Лістапада.

Хатка й арганізаваныя ёю гурткі былі пратэстам супраць тае генэральнае лініі ў узгадаваньні моладзі, якую нам накідала Масква праз камсамол. Празь інтэрнацыяналізм камсамолу да нас ішла русыфікацыя. Абвешчаньне ў той час чатырох моваў дзяржаўнымі мовамі Беларусі было зроблена з мэтай панізіць значаньне беларускае праблемы, паказаць, што Беларусь — гэта проста геаграфічны назоў. Беларусызацыя, якая праводзілася беларускімі арганізацыямі, улучна з Хаткай, змусіла бальшавікоў перагледзець нацыянальную палітыку. Аднак, істотных зьменаў у нацыянальнай палітыцы бальшавікоў не адбылося: павесілі толькі шыльды, напісаныя пабеларуску, русыфікацыя-ж і нішчэньне ўсяго беларускага адбываецца й да сягоньня.

**Язэп Кіпель.**



# ПАМЯЦІ ДАРАГОГА НАСТАЎНІКА



**Першы выпуск матурыстых гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе ў 1946 г. Др. А. Орса сядзіць у цэнтры.**

2-га лістапада 1959 г. адыйшоў ад нас др. Аляксандар Орса — беларускі грамадзкі дзеяч, патрыёт і настаўнік. Гэта балючая страта для ўсіх Беларусаў на эміграцыі, але хіба найбольш адчуваем яе мы — моладзь, згубіўшы шчырага апякуна, чалавека, які пасьвяціў усё сваё жыцьцё ўзгадаваньню беларускае моладзі — даючы ёй асьвету, фармуючы яе духова, прышчапляючы ёй ідэялы дэмакратычнага беларускага незалежніцтва.

Сьв. пам. др. Орса рана ў жыцьці ўсьведаміў сабе, што асьвета — гэта наймацнейшая зброя беларускага народу, і будучы запраўдным патрыётам, выбраў сабе жыцьцёвы шлях настаўніка. Каб лепш дарыхтавацца да гэтае працы, ён эміграваў з роднае Наваградчыны ў Чэхаславаччыну, дзе ў 1929 г. скончыў прыродаведны факультэт Карлавага Ўнівэрсытэту ў Празе з тытулам доктара. Прыгнёт польскае акупацыі ў Заходняй Беларусі змусіў яго, як і шмат іншых маладых Беларусаў, шукаць асьветы за мяжою.

Вярнуўшыся на Беларусь, др. Орса працуе ў Беларускай Наваградзкай Гімназіі аж да ейнага зьліквідаваньня польскімі ўладамі ў 1941 г., не зважаючы на цяжкія матар'яльныя абставіны (Польская дзяржава апекавалася толькі польскімі школамі. Беларуская гімназія мусіла утрымвацца з вучнёўскае аплаты).

II-ая Сусьветная вайна ўзноў дае

магчымасьць др. Орсу працаваць у беларускім школьніцтве; у 1941 г. беларускія настаўнікі Наваградчыны абіраюць яго за школьнага інспэктара на гэтую акругу.

Канец вайны ў 1945 г. засьпявае др. Орсу ўцекачом у Нямеччыне. Ён адразу ўлучаецца ў беларускую грамаду й зараз-жа пачынае рабіць стараньні, каб заснаваць беларускую гімназію на эміграцыі. Сярод беларускае ўцякацкае моладзі, рассыпанае па розных іншанацыянальных лягерах, ён вэрбуе кандыдатаў. У гэтым-жа 1945 г. у Рэгенсбургу пачынаецца праца гімназіі імя Янкі Купалы пад кіраўніцтвам др. Орсы. Пасьля, разам зь беларускай групай, гімназія перабіраецца ў лягер Міхельсдорф, каля чэска-нямецкай мяжы. Гімназія імя Янкі Купалы неўзабаве сталася для нас, моладзі, культурнай і духовай кузьняй.

Раўнуючы да нашага сяньняшняга жыцьця, абставіны Міхельсдорфу можна назваць жахлівымі. Хто жыў або бываў у „бурсе", яшчэ цяпер добра памятае праніклівую сьцюжу зімовых месяцаў у дашчаных бараках, „брацкае" дзяленьне паў-баханкі хлеба на 8 чалавек... Бурсакі так сябе й звалі: „Галоднай Брацьцяй". Але дарма! У перашкодах якраз і рос дух. Гімназія будавала будучую інтэлігенцыю, — ды бурса адначасна гадавала кіраўнікоў беларускага скаўтынгу, спартовых арганізатараў, нацыянальна сьведамую й самапэўную моладзь.

Др. Орса ня толькі рупіўся аб працы гімназіі, але й аб узгадаваньні моладзі за школаю. Ён стаўся апякуном беларускіх скаўтаў, да якіх належала ўся беларуская моладзь Міхельсдорфу й іншых лягераў. З гэтых няпэўных, галодных, але моладзі гэтак цікавых гімназіяльных дзён засталося ў сэрцах ягоных былых вучняў цёплае пачуцьцё да свайго „Спадара Дырэктара", заўсёды гатовага з парадай і дапамогай.

За 5 год існаваньня гімназіі імя Янкі Куполы празь яе прайшло каля 80 вучняў. Скончылі яе каля 40 вучняў, зь якіх 25 маюць цяпер скончаны ўнівэрсытэт.

Веда, ідэялы й гарт, атрыманыя ў гімназіі, засталіся ў былых вучняў і на эміграцыі; у Амэрыцы, Ангельшчыне, Канадзе, Нямеччыне яны бяруць актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці, і ў шмат якіх асяродках грамадзкае жыцьцё якраз на іх і абапіраецца. Гэта першым чынам вынік шчырае й упорыстае працы сьв. пам. др. Орсы, вынік ягонага ідэялізму, зь якім ён перамагаў усе перашкоды на сваім жыцьцёвым шляху ўзгадаваньня беларускае моладзі.

Уканцы хацелася-б успомніць адну кітайскую прыказку, значаньне якое вельмі добра разумеў наш Спадар Дырэктар:

„Калі працуеш для заўтра, гавары!
Калі працуеш для гадоў, пішы!
Калі працуеш для стагодзьдзяў, узгадоўвай моладзь!"

**Гімназісты.**

---

**Народная мудрасьць пра працавітасьць**

*Хто замаладу не працуе, той пад старасьць жабруе.*
*Чакаў збавеньня зь неба, а тымгасам і хлеба трэба.*
*Як хто дбае, так той і мае.*



# ХРОНІКА

## НЬЮ-ЁРК

**На міжнацыянальнай выстаўцы**

3-га лістапада летась танцавальны гурток выступіў на 36-ай Міжнароднай Жаноцкай выстаўцы із скокамі „Лявоніха" „Таўкачыкі" й „Мікіта".

Сяброўка Клава Ярашэвіч прапяяла пару народных песьняў пад акампаніямэнт сп-ні праф. Э. Зубковіч. Некаторыя дзяўчаты памагалі таксама дыжурыць пры двох беларускіх стэндах на працягу тыднёвае выстаўкі.

**Калядоўнікі**

У часе Калядаў калядоўнікі наведалі беларускія хаты ў Нью-Ёрку, дзе былі міла вітаныя, за што ўсім вялікі дзякуй. Прыбытак прызначаны на сьвятліцу ЗБМА. Удзел бралі наступныя: сяброўкі — Н. Каваль, О. Мельяновіч, С. Цэлеш, А. Зыбайла, й сябры — А. Лысюк, А. і П. Кавалі, В. Станкевіч, К. Верабей, й В. Тарашкевіч. Падвучваў сьпеву сп. М. Тулейка.

**Ялінка**

9 студзеня сёлета адбылася, ужо традыцыйная, штагодная ялінка моладзі з падарункамі, танцамі й пачосткай.

**Лекцыя беларусаведы**

26 лютага аддзел ладзіў лекцыю зь беларусаведы паангельску, каб памагчы сябром пазнаёміць сваіх калегаў — Амэрыканцаў з нашай бацькаўшчынай. Чытаў лекцыю сябра Я. Запруднік, карыстаючыся фатаграфіямі на пражэктары, копіямі гістарычных дакумантаў і сучаснымі весткамі з газэтаў. Праграма была дапоўненая народнай музыкай на йстужцы. У канцы дакладчык адказаў на шмат якія пытаньні. Аўдыторыя выказала пажаданьне паўтараць падобныя лекцыі.

**Вечарына**

27 лютага моладзь ладзіла вечарыну пад аркестру „Бярозка". У праграме было: разданьне прызаў зь пінпонгавага турніру й куляў („боўлінг") — аўкцыён, у якім найбольш ахвярнымі былі спадарства Андрыцы. Таксама быў праведзены паказ здольнасьцяў, у якім першае месца заняла сяброўка Герда Кабушка за граньне на акардыёне, другое — Аліна Лосік за сьпеў пад акампаніямэнт Герды. Іншыя ўдзельнікі: Ю. Станкевіч, што паказаў жартаўлівы скеч; А. Лысюк— граў на гармоніку й В. Станкевіч — выступіў зь вершам „Сон фубалістага". Узнагародамі былі беларускія кружэлкі й кніжкі. Вечар прайшоў удала як з таварыскага гледзішча, гэтак і зь фінансавага. Прыбытак пайшоў на сьвятліцу ЗБМА.

**Спорт**

У спартовай галіне аддзел праводзіў заняткі ў гімнастычнай залі раз на месяц. Найбольш папулярным выявіўся зімовы спорт — коўзікі й ірты (лыжы). Цяпер праводзіцца шахматны турнір, у якім сябры П. Алексы й К. Верабей пакуль што бяруць верх. Адбыўся пінпонгавы турнір, у якім першыя месцы й пераходныя чашы нью-ёрскага аддзелу на 1960 г. занялі: сярод дзяўчатаў — Слава Цэлеш, сярод хлапцоў — Якуб Шапялюк. Хлапцы арганізавалі таксама міжсобку турнік куляў, дзе заняў першае месца й здабыў чашу П. Алексы. М. Казьлякоўскі заняў другое месца, астаўшыся ўсяго на колькі пунктаў, а трэйцяе месца дасталося А. Несьцяровічу.

**Дзясятыя ўгодкі ЗБМА**

У 1961 г. будзе ўжо дзесяць гадоў, як існуе нашая арганізацыя моладзі ў Амэрыцы. Каб адзначыць дзесяці-

годзьдзе карысна й цікава, галоўнае кіраўніцтва зварачаецца да сяброў ЗБМА і чытачоў нашага часапісу з просьбай падаць нам свае пажаданьні й прапановы, як найлепш гэта зрабіць.

## КЛІУЛЕНД

**Навагодная сустрэча**

31 сьнежаня летась аддзел ладзіў сустрэчу Новага Году. Аркестра „Палесьсе" й сьпявачка Іра Каляда трымалі вясёлы настрой. Кухня жаноцкага згуртаваньня падмацоўвала, каб хто ня прыстаў у скоках. За колькі часінаў перад дванаццатай кіраўнік моладзі прывітаў усіх. Яшчэ адзін год адыйшоў у мінуўшчыну, а нарадзіўся новы. На залі запанаваў запраўды навагодны настрой. Вясёлая забава трывала да позна начы. Сустрэча была наладжаная вельмі ўдала, усіх задаволіла й прынесла добры прыбытак.

**Калядоўнікі**

На праваслаўныя Каляды школьная моладзь з настаўнікам К. Кіслым абыйшла з зоркаю й калядкамі беларускія хаты. Вельмі прыгожая была зорка, зробленая Андрэям Лук'янчыкам. Маладыя калядоўнікі мелі вялікі рэпэртуар, за што трэба дзякаваць сп-ру К. Кісламу.

Расьце моладзь, растуць новыя Беларусы, якія ніколі не адракуцца ад сваіх бацькоўскіх звычаяў, шануючы іх, знаёмячы зь імі чужынцаў і годна рэпрэзэнтуючы ймя Беларусі.

**Ялінка**

10-га студзеня зыйшліся ў сьвятліцу беларускага дому дзеці, бацькі й наагул Беларусы на ялінку, што была ладжаная агульнымі сіламі беларускае калёніі ў Кліўлендзе. Мастацкую частку зрыхтаваў сп. К. Кіслы. Пасьля мастацкай часткі Дзед Мароз раздаў падарункі ня толькі дзецям, але некаторым і старэйшым.

**Спорт**

Ужо шмат пісалася пра спорт у Кліўлендзе. Тут ёсьць аматары. Сябра Алесь Самойліч пасьля школы й трэнінгу 17 лютага выступіў першы раз у залі Кліўлендзкае Арэны як прафэсійны дужбіт. Пры кажнай нагодзе ён падчырквае, што ён Беларус і выступае пад сваім собскім імём. Беларусы Кліўленду цешацца й ганарацца ды жадаюць маладому дужбіту ўдачаў у ягонай спартовай кар'еры.

**Свая друкарня**

Аддзел моладзі купіў друкарню, якая вельмі карысная для цэлае калёніі ды прыносіць прыбытак у касу. У друкарні шмат шрыфтоў лацінічных, а таксама й колькі кірылічных. Набылі клішы Пагоні, арнаменты й іншыя рэчы, патрэбныя для беларускае друкарні. Прыймаюцца заказы на ўлёткі, запросіны, праграмкі, білеты, візытоўкі й г. д. Просім падтрымаць сваю друкарню, каб яна разбудавалася ды прынесла карысьць на беларускай выдавецкай ніве.

## САУТ-РЫВЭР і НЬЮ-БРАНСУІК

**Агульны сход аддзелу ЗБМА**

У сыботу 12-га сьнежня 1959 г. адбыўся чародны агульны сход сяброў Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА), аддзелу Саўт-Рывэр—Нью-Брансўік. Кіраўнічка аддзелу, сяброўка Аліна Лосік адчыніла сход і прывітала ўсіх. У прэзыдыюм былі абраныя: сяброўка Галіна Русак — за старшыню, сябра А. Кароль — за сакратара.

Па выслуханьні справаздачаў, на прапанову кантрольнае камісіі й прэзыдыюму сходу быў аднагалосна вынесены абсалютарыюм уступаючаму



ўраду аддзелу ЗБМА. У выніку галасаваньня, у новую ўправу аддзелу былі абраныя : Аліна Лосік — кіраўнічка аддзелу, Аня Стома — сакратар, Надзя Хмялеўская — скарбнік, Гэрда Кабушка і Міхась Каранеўскі — сябры ўправы; П. М-скі, В. Стома і Галіна Русак — кантрольная камісія.

На сходзе дыскутавалася справа сяброўства й быў укладзены плян працы на бліжэйшую будучыню. Трэба спадзявацца, што новая ўправа аддзелу ЗБМА належна выканае свой абавязак і пастараецца пашырыць дзейнасьць аддзелу сярод тутэйшае моладзі.

Агульны сход скончыўся адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну.

**Ялінка ў Саўт-Рывэры**

10-га студзеня 1960 г. ў Саўт-Рывэры адбылася ялінка для дзяцей школьнага й дашкольнага веку. Сябры Саюзу Беларуска - Амэрыканскае Моладзі (СБАМ) прыдбалі й упрыгожылі ялінку ды супольна з Грамадзкім Камітэтам пакрылі арганізацыйныя выдаткі.

Праграму ялінкі адчыніў прамовай а. Мікалай Лапіцкі, заклікаючы дзяцей сумленна вучыцца ў беларускай школе, а бацькоў — утрымваць беларускія традыцыі ў сямейным жыцьці.

Галоўным пунктам праграмы была дзіцячая мастацкая самадзейнасьць, якую старэнна зрыхтавалі настаўнікі беларускае школы. Вучні дэклямавалі вершы, паказалі свае здольнасьці ў сьпевах і музыцы. Танцавальны гурток беларускай школы вельмі ўдала выканаў народныя танцы „Бульбу" й „Лявоніху".

Пасьля гэтага зьявіўся на сцэне Сьв. Мікалай з санямі, поўнымі падарункаў. Дармо, што на ялінцы было каля 100 дзяцей, Сьв. Мікалай (сябра А. Махнюк) дагадзіў усім.

Для дзяцей вечар скончыўся супольным пяяньнем і гульнямі вакол ялінкі, а для дарослых — агульнымі танцамі.

**Калядоўнікі**

10-га студзеня 1960 г. хлапцы й дзяўчаты з аддзелу ЗБМА Саўт-Рывэр—Нью-Брансўік хадзілі із зоркаю па хатах мясцовых Беларусаў і пяялі калядныя песьні: „Бог - Збавіцель нарадзіўся", „Неба й Зямля" й „Калядная Ночка". Усюды іх вельмі шчыра прыймалі й шчодра ўзнагароджвалі падарункамі й грашыма. Усім было прыемна пабачыць, як моладзь захоўвае й пашырае беларускія народныя песьні й звычаі.

Назьбіраныя калядоўнікамі грошы былі перададзеныя ў касу аддзелу ЗБМА.

**Ялінка ў Нью-Брансўіку**

Беларуская парахвіяльная школа ў Нью-Брансўіку й мясцовы аддзел ЗБМА супольна зарганізавалі калядную ялінку 17-га студзеня сёлета.

Пасьля ўступнога слова кіраўніка школы, сп. Ф. Родзькі, пачалася багатая праграма мастацкай самадзейнасьці, у якой узялі ўдзел дзеці дашкольнага веку, вучні беларускае школы й старэйшыя сябры ЗБМА. Асабліва ўзварушылі ўсіх бойкія дэклямацыі наймалодшых.

Працягваючы сваю сцэнічную традыцыю (пачатую на 8-ым Гадавым Зьезьдзе), сяброўкі й сябры ЗБМА вельмі ўдала выступілі ў сцэнічным абразку „Сьвятая Ноч", які апрацаваў сп. В. Стома. Іхны выступ закончыўся супольным сьпяваньнем калядак.

Праграма завяршылася прыездам доўгачаканага Сьв. Мікалая (нешта ён доўга забавіўся ў суседнім Саўт-Ры-

вэры — цэлы тыдзень!) з падарункамі.

На ялінцы гасьцявала таксама моладзь зь Нью-Ёрку, якая адсьпявала колькі калядных песьняў. На канчатак сяброўкі ЗБМА пачаставалі ўсіх кавай і закускай.

**Беларуская аркестра „Бярозка"**

У Саўт-Рывэры зарганізавалася нядаўна аркестра „Бярозка", трэйцяя ўжо пасьля клі́ўлендзкага „Палесься" й філядэльфійскіх „Васількоў" аркестра беларускае моладзі ў Амэрыцы.

У аркестры граюць: Язэп Жыдовіч (кіраўнік аркестры) — на мандаліне, браты Уладзімер і Лявон Бычкоўскія —на акардыёне й бубне, Сьцяпан Ваўбель — на акардыёне, Пётра Казакоў — на шорхаўках („маракас") і сп. К. Барысавец — на пяніне. Сябра У. Бычкоўскі апрача таго хутка вырабляе сабе рэпутацыю як сьпявак-салісты.

Аркестра „Бярозка" мае ў сваёй праграме шмат беларускіх народных мэлёдыяў і танцаў, як прыкл.: Лявоніха, Юрачка, Полька Янка, Бульба, Мікіта й інш. Дзякуючы гэтай праграме, а таксама добраму выкананьню іншых, асабліва паўдзённа-амэрыканскіх танцаў, „Бярозка" хутка здабыла сабе ў гэтым сэзоне папулярнасьць сярод Беларусаў Нью-Джэрзы й Нью Ёрку.

**ЧЫКАГА**

**АБАМСІ**

У травені 1959 г. Арганізацыя Беларуска - Амэрыканскае Моладзі ў Штаце Іліной (АБАМСІ) была зацьверджаная сакратаром штату Іліной ды гарадзкімі ўладамі Чыкага й Пэорыі, як незарабковая (нон-профіт") арганізацыя беларускае моладзі із сваім собскім статутам.

У лістападзе леташняга году адбыўся другі справаздачна-перавыбарны сход арганізацыі. Урад застаўся ў папярэднім складзе: Л. Сідарэвіч — старшыня, А. Кучура — заступнік, В. Рамук — сакратар, М. Кучура — скарбнік, З. Міранцова й А. Пікуза — рэфэраты.

За час свайго існаваньня АБАМСІ наладзіла дзьве вялікія імпрэзы:

**Вечарына.** У верасьні летась была наладжаная першая гадавая вечарына, што прайшла вельмі ўдала й гучна ды прынесла добры прыбытак.

Урад АБАМСІ дзякуе сп-ву Шпакоўскім ды ўсім сяброўкам і сябром, якія ўклалі шмат працы пры буфэце, а таксама ўкраінскай моладзі ў Чыкага за масавае падтрыманьне вечарыны.

**Ялінка.** 9 студзеня сёлета АБАМСІ наладзіла ялінку для беларускіх дзетак і беларускага грамадзтва. У праграму ўвайшлі наступныя нумары: сцэнічны скеч для дзяцей „Калядная ночка на Беларусі", дэклямацыі, музычныя выступы дзяцей ды Дзед Мароз з падарункамі.

Пасьля мастацкае часткі адбылася багатая агульная пачостка для ўсіх прысутных. У часе пачосткі было нададзенае першае ганаровае сяброўства АБАМСІ ў форме мастацка выпісанае граматы сп-ру й сп-ні Шпакоўскім за іхныя заслугі перад арганізацыяй. Сп. Шпакоўскі, а пасьля сп. Дзямідаў, у сваіх прамовах падчыркнулі значаньне свае арганізацыі моладзі ды жадалі далейшых удачаў у працы.

Ад пачосткі перайшлі да танцаў. Удзельнікі „ялінкі" былі вельмі задаволеныя — гэта быў прыемны духовы адпачынак і прыпамін сабе дарагое Бацькаўшчыны.

*Загадка: Бяжыць сьвінка, сталёвая сьпінка, хвост канапляны.*



# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ У НЯМЕЧЧЫНЕ

*Мы Беларусі вольнай арляняты,*
*імкнемся ў выш і ў сонегны прасьцяг,*
*дзе, як арол магутны і крылаты,*
*шугае бел-гырвона-белы сьцяг!*

Бальшыня беларускае моладзі, што цяпер жыве ў Амэрыцы, Канадзе й Аўстраліі, прыехала ў гэтыя краі з уцякацкіх лягераў Нямеччыны. У гэтых лягерах беларуская моладзь праяўляла жывую дзейнасьць, належачы ў найбольшай меры да Беларускіх Скаўтаў. Скаўцкая арганізацыя, разам зь беларускімі школамі, узгадавала дзесяткі патрыятычных , зарадных і сумленных хлапцоў і дзяўчат, што выэміграваўшы за мора, зараз-жа там аднавілі дзейнасьць моладзі ў форме Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА), Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (СБАМ) ды іншых маладзянскіх і студэнцкіх арганізацыяў.



**Беларуская моладзь на міжнацыянальным фэстывалі ў Кенігштайне (Зах. Нямеччына), у 1958 г.**

Пасьля выезду ў 1951 г. асноўнае масы беларускіх эмігрантаў зь Нямеччыны, засталася там толькі моладзь, што ня мае магчымасьці эміграцыі за мора дзеля хваробы або калецтва бацькоў і падобных прычынаў. Гэтая моладзь (у 1951 г. гэта былі пераважна малыя дзеці) апынулася без арганізаванай апекі беларускага грамадзтва, безь беларускіх школаў, пакінутыя на ласку нямецкіх уладаў (пасьля разьвязаньня лягераў ІРО ў 1951 г. уцекачоў паперакводзілі ў вадмысловыя селішчы, адміністраваныя нямецкай уладай). Моладзі пагражала духовая германізацыя або пераўзгадаваньне іншымі нацыянальнасьцямі на свой лад.

У падобным становішчы апынулася моладзь і іншых народаў — Сэрбаў, Харватаў, Славэнцаў, Славакоў, Чэхаў, Баўгараў, Палякоў. Каб заапекавацца ёю ды ўзгадаваць яе ў нацыянальным духу свайго народу, былыя працаўнікі арганізацыі моладзі „Арла" пастанавілі ўзнавіць сваю працу на эміграцыі.

Сіла, прыгаство, узьлёт і адвага арла была ад спрадвеку ў славянскай моладзі сымбалем змаганьня за волю й незалежнасьць свайго народу, сымбалем маладой вытрываласьці й непераможнасьці. Гэты сымбаль пераняла, як сваю адзнаку, славэнская моладзь, засноўваючы ў 1904-5 годзе першую арганізацыю „Арла". З Славэніі (паўночнай часткі сяньняшняй Югаславіі), яна паступова пашырылася між іншымі славянскімі народамі.

З аднаўленым „Арлом" неўзабаве

навязала лучнасьць падрастаючая беларуская моладзь Нямеччыны. Ужо ў 1953 г. яна актыўна супрацуе з „Эўрапэйскай Радай Зьвязу Славянскага Арла", хаця асобнае беларускае арганізацыі тады яшчэ ня было. Першыя арганізацыйныя адзінкі Беларускага „Арла" паўстаюць у 1957 г. Калі Масква заглушала сьвет рыхтаваньнем да 40-ых угодкаў Расейскае Рэвалюцыі, у Нямеччыне ціха й бяз крыку тварыліся першыя адзінкі Беларускага „Арла", які сабе паставіў за заданьне узгадаваць і ўзрыхтаваць тут, у вольным сьвеце, рады фізычна здаровай, нацыянальна й рэлігійна сьведамай беларускай моладзі, што некалі, па вызваленьні Бацькаўшчыны, пяройме ад камунізму ўзгадаваньне моладзі.

У супрацы з рэштай арлоўскае славянскае моладзі, Беларусы ўзялі удзел у вялікіх летніх лягерах у Кенігштайне ля Франкфурту у гадох 1958 і 1959. На ладжаных тут урачыстых акадэміях нашая моладзь паказала харaство беларускіх народных танцаў, песьняў і вопраткі ды зрабіла шмат дзеля пашырэньня веды аб Беларусі на міжнародным форуме.

Мэтай гэтых летніх лягераў было ўзгадаваць хлапцоў і дзяўчат, якія-б пасьля, вярнуўшыся да сваіх асяродкаў, вакол сябе зарганізавалі рэшту моладзі, вучылі іх роднае мовы, беларускіх песьняў, танцаў і звычаяў, разьвівалі іхныя музычныя або спартовыя здольнасьці, паглыблялі іхныя веды аб Беларусі.

Хто любіць свой народ і каму залежыць на будучыні яго, той напэўна ахвоча паможа працай і ахвярай, каб беларуская моладзь у Нямеччыне была добра дарыхтаваная да свайго заданьня ў будучыні: дзейна памагчы пры будаваньні новае свабоднае Бацькаўшчыны.

Першым чынам гэта наш абавязак— абавязак арганізаванае беларускае моладзі ў Амэрыцы. Незалежна ад таго, да якое арганізацыі належым, мы павінны стацца „старшымі братамі й сёстрамі" нашым беларускім арлянатам у Нямеччыне-памагаць ім у наладжаньні арганізацыйнага жыцьця сяброўскай парадай, беларускім словам, ахвярай канечнае для іх рэчы. Гэта будзе для нас запраўды пачэсны й духова здавальняючы абавязак.

„БОГ і БАЦЬКАУШЧЫНА" —

Кліч Беларускага „Арла".

УВАГА:

Хто жадае навязаць асабістую карэспандэнцыю з сябрамі Беларускага Арла ў Нямеччыне, і

Хто з сяброў Беларускага Арла жадае ліставацца зь беларускай моладзяй ў Амэрыцы, Канадзе, Аўстраліі ды іншых краёх,

Калі ласка, зварачайцеся на адрыс:

G. Stankevich
c/o "Byelorussian Youth"
401 Atlantic Avenue
Brooklyn 17, N. Y., USA

### 9-ты ГАДАВЫ ЗЬЕЗД

Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі 1-га верасьня 1960 г. у Кліўлендзе!



# СПОРТ СЬНЕГУ Й СОНЦА

*(Прыгоды нашых іртаўнікоў *)*

Каб адзначыць зімовую алімпіяду, якая адбылася ў Каліфорніі ў лютым, беларускія іртаўнікі (лыжнікі) Нью-Ёрку, пераважна моладзь, набраліся сёлета асаблівага энтузіязму да свайго спорту. Бадай што нядзелі яны едуць у горы. Хачу сяньня расказаць, як прайшла першая з гэтых экскурсіяў— зараз пасьля Новага Году.

Каб наладзіць экскурсію, трэба толькі наказаць нашым „вэтэранам", якія маюць свае аўты (для паясьненьня: „вэтэран" — гэта той, хто ўжо летась езьдзіў на ірты). Калі яны й іхныя аўты здаровыя, экскурсія на 90% пэўная.

Зборны пункт — усім нам ведамы зялёны плот пры 401 Атлянтык Авэню. Вось ужо зьбіраюцца. Апраненыя нашы спартоўцы розна, толькі можна зацеміць, што ў усіх вэтэранаў сінія ваўняныя шапкі. Тымчасам шофэры ўжо праструдыявалі карты, запусьцілі маторы й гатовыя ехаць. Дык бывай, Бруклін!

Пераначаваўшы на фарме сп. Бобрыка й добра пасьнедаўшы ў яго, едзем да мэты нашага падарожжа — Бэлэр у горах Кэтскілс. (Я хацеў больш напісаць аб месцы нашага начлегу, але прыпомніўшы сабе, колькі каштуе друк „БМ", раздумаўся. Трэба пісаць толькі на тэму. Выбачце, сп. Бобрык! Можа іншым разам удасца).

Вось ужо й Бэлэр. Выходзім з аўтаў. Сонца й сьнег сьлепяць, сьцюдзёны вецер праймае да косьці. Хутчэй дастаём ірты (лыжы), кійкі, боты (г. зн. наймаем іх на дзень). Адзін з нашых навікоў выходзіць з будынку ў навюсенькай чырвонай шапцы, зь якой ён ужо не расстаўся аж да самага Брукліну.

Вэтэраны спачатку асьцярожна едуць наўскасы. А што калі за год забыўся? Нешта ірты хочуць самі ехаць уперад, але кажны дазнаны іртаўнік ведае, што калі ўжо едуць ірты, дык і ён мусіць ехаць за імі. Гэта аказваецца лягчэй сказаць, чымся зрабіць, і даводзіцца першы раз абтрэсаць сьнег з нагавіцаў. Трэба прызнаць, аднак, што пасьля першай няўдачы ўжо ўсё прыпамінаецца, і чалавек чуецца на іртах, як дома.

Пачуўшыся мацней на нагах, вэтэраны — ды чырвонашапачнікі таксама — ідуць глядзець сваіх дзяўчат. Тут ужо ідуць прафэсіянальныя парады: „Едзь толькі з малой горкі. . .Нахінуцца ўперад, — ня так, ня так, калены зьгінаць, а рэшту цела трымаць проста! Як затрымацца? Проста — вярнуць убок. А калі ня выходзіць? Вучыся падаць: набок і ўперад, пад адхон гары, лёгенька. Вось і ўсё". Найбольш карысная рада — гэта: хінуцца ўперад, бо йнакш ірты ўцякаюць спад ног, а іртаўнік застаецца ззаду. Абавязкава паваліўся, калі цела застаецца за іртамі — і да таго паваліўся няправільна.

Усім зрабілася цёпла. Пасьцідалі сьвэтры; шапкі аказаліся ня вельмі патрэбныя. Калі ў каго была застуда, дык ўжо даўно прайшла, фізычны высілак і сьвежае паветра — найлепшыя лекары.

Каб палуднаваць, едзем выгодна „крэславым ліфтам" на самую гару

(Працяг на бал. 17)

* Іртаўнік (лыжнік) ад слова „ірты" (лыжы). Гэтае слова чыста беларускае й сустракаецца, хаця рэдка цяпер, па ўсёй Беларусі.

# ПОМНІК СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЦАМ




Няма большае ахвяры, як аддаць жыцьцё сваё за свабоду Бацькаўшчыны. Няма большага абвязку, як шанаваць памяць тых, што паміраюць, каб Бацькаўшчына не памерла.

На прапанову й просьбу Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі на сьвяткаваньні 39-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня ў Нью-Ёрку час ад лістапада 1959 году да сьнежаня 1960 году быў абвешчаны ГОДАМ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ. У сваім лісьце, высланым на рукі старшыні Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў генэрала Францішка Кушаля, галоўнае кіраўніцтва ЗБМА гэтак абгрунтоўвала сваю просьбу:

...каб беларуская моладзь... у вольным сьвеце сталася надзейным пераймальнікам ідэі вольнае Беларускае Народнае Рэспублікі, за якую змагаліся Слуцкія паўстанцы; каб беларуская моладзь пашырала й замацоўвала ў сваім народзе змагарныя традыцыі... супраць расейскага каляніялізму за свабоду й незалежнасьць Беларусі; каб замацаваць у сьведамасьці, асабліва маладога пакаленьня, вызначальную гістарычную падзею — Слуцкае Паўстаньне — ды належна сустрэць саракові угодкі гэраічнага чыну тых, што паміралі, каб жыла Бацькаўшчына..."

ЗБМА, падтрымваючы свае словы канкрэтнай справай, выдала юбілейныя маркі да 40-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня. Галоўнае кіраўніцтва Згуртаваньня заклікае ўсю беларускую моладзь вольнага сьвету ўзяць на сябе адказнасьць за распаўсюджваньне гэтых марак сярод сваіх суродзічаў і сярод чужынцаў. За здабытыя пры гэтым грошы ЗБМА плянуе выдаць Слуцкі Альманах, у якім будзе зьмешчанае ўсё, што ёсьць у нашай літаратуры, мастацтве й музыцы пра Слуцкае Паўстаньне. Гэта будзе найлепшы й найтрывалейшы помнік Беларускім Гэроям, якія не пашкадавалі жыцьця свайго ў імя лепшае будучыні Беларусі.

Няхай-жа беларуская моладзь вольнага сьвету станецца будаўніком помніка Слуцкім Паўстанцам!

---



## СПОРТ СЬНЕГУ И СОНЦА

(Працяг з бал. 15)

Вэлэр. Нажаль, „франкфуртэры" й кава ніяк ня могуць задаволіць нашыя воўчыя апэтыты. Некаторыя з нас начынаюць ужо лятуцець аб „салідным вячэры" падарозе назад у Нью-Ёрк. З гары дзяўчаты едуць узноў ліфтам, а хлапцы зьяжджаюць на іртах, па лясной дарозе, што віецца ўніз сэрпэнтынай. Тут, браце, трэба добра аблічыць, калі пачаць рабіць заварот — аблічыць, ці для завароту стане месца на дарозе. Хлопцы зьяжджаюць з адчаем і завароты ўдаюцца — усе застаюцца на дарозе, ніхто не прастуе простай лініяй у густы лес. Адны круцяць вельмі ўдала. Цікава зацеміць, якія ўдаюцца цудоўныя завароты, калі бачыш дрэва проста перад сабой. Тады робіш такі прафэсіянальны заварот, што ажно сьнег пырскае, якраз, як у фільмах паказваюць. Паспрабуй гэтакзавярнуць, паказваючы дзяўчыне — абавязкава іртьі разьедуцца ў розныя бакі й апынішся на сьпіне.

Але што тут раўнаць — дзяўчына ўсё-ж такі прыямней за дрэва, хоцьбы таму, што пазнаёміцца зь ёю куды цікавей (а гэта часта бывае вынікам няўдалага завароту).

Іншыя хлапцы бяруць заварот з апошніх сілаў — круцяць ужо ледзь ня седзячы на іртах, і канчаюць ужо сеўшы, але ўсё яшчэ на дарозе й трыюмфальна аглядаючыся на гатовых да сьмеху сяброў: „А вось я ўсё яшчэ на нагах!" Найбольшае гэройства — гэта ня спыняцца, а ўзьняцца з „прысядкі" й ехаць далей, хоць-бы што.

Некаторыя ўзноў практыкуюць паданьне на лясных заваротах. Умеючы правільна падаць, заўсёды затрымаешся, калі трэба. Толькі назаўтрае косьці крыху баляць. А цяпер, у гасарце нічога не баліць — чалавек чуецца такі моцны, што, здаецца, мог-бы сьмела ў амэрыканскі футбол гуляць.

Зьехаўшы ўніз, яшчэ з гадзіну практыкуемся на меншых адхонах, каб удасканальніць тэхніку. Пасьля гэтага ўжо й вэтэранам пачынаюць слабець ногі. Прыемнае змучаньне ахапляе ўсіх, і шофэры просяць, каб пасажыры падарозе больш гаварылі, бо йнакш нельга будзе гарантаваць шчасьлівае падарожжа. Праўда, некаторых пасажыраў прасіць ня трэба.

Нажаль, мала дзяўчат езьдзіць з намі. Каб вы, дзяўчаткі, бачылі, якія красуні зьяжджаюць з горак Вэлэр, і як нашыя хлапцы ахвоча, далікатна, з джэнтэльмэнскімі манерамі памагаюць ім уставаць із сьнегу. . .А нашых красуняў на сьнезе ня відаць.

Неканечна трэба ўмець першаклясна езьдзіць на іртах — некалі-ж трэба й навучыцца. І дайце мне веры, па кажнай экскурсіі найлепш і найвесялей чуюцца якраз „новыя" іртаўнікі, паваляўшыся крыху ў сьнезе, пасьмяяўшыся з узаемных прыгодаў — а не „вэтэраны", якія шліфуюць тэхніку на адзіноце.

Нарэшце, варта, каб аддзел ЗБМА памог сваім малодшым сябром часчасом паехаць на ірты — тым сябром, што яшчэ не зарабляюць і ня могуць сабе дазволіць на частыя выезды. Наймо ботаў ды іртаў каштуе 4-5 дал., доступ на „горку" 3-4 дал. і заклад за ірты й боты 10-15 дал. Вось прынамся гэты заклад, што пасьля й так варочаецца, мог-бы аплаціць аддзел ЗБМА. А ў нашых малодшых спартовага энтузіязму даволі, як гэта добра паказалі нядаўныя „масавыя" выезды ньюёркаўскай моладзі на коўзікі (канькі).

Дык — хлапцы й дзяўчаты: адпіхнуцца й адзін па адным далоў з горкі!

**Іртаўнік.**

Цана: 50 ц.

# ПЕРАПІС ЖЫХАРСТВА

**(1960 U S CENSUS)**

*Сёлета ў красавіку* **(April)** *будзе праведзены перапіс жыхарства Задзіночаных Штатаў Амэрыкі. Падавайце месцам сваейго нараджаньня* **(Former Nationality)— BYELORUSSIA**, *а моваю бацькоў* **(Mother Language)— BYELORUSSIAN**.

*Моладзь, памажэце сваім бацьком у гэтай важнай справе!*

---

Printed by R. Krupka & M. Pyrsky, 114 St. Mark's Place, N. Y. C.